● Кастрычнік... О, як многа ў гэтым гуку!

# Перадвыбарчая кампанія набірае моцы

**Ініцыятыўныя групы ўсе ўжо зарэгістраваны і актыўна вядуць збор подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У тых жа, хто збіраецца балатавацца на будучых выбарах і не паспеў стварыць уласную ініцыятыўную групу, цяпер засталіся толькі два шляхі — вылучэнне праз працоўныя калектывы і пры дапамозе палітычных партый.**

Як паказала практыка папярэдніх перадвыбарчых кампаній, звычайна амаль палова кандыдатаў у дэпутаты абіралі менавіта гэты складаны шлях да дэпутацтва — збор подпісаў.

Аднак умовы мінулых выбараў у парламент і сённяшняй перадвыбарчай кампаніі істотна адрозніваюцца. Па-першае, выбарчыя акругі павялічыліся больш чым удвая: калі раней акруга ў сярэднім налічвала 27-30 тысяч выбаршчыкаў, то цяпер — каля 70 тысяч. Па-другое, у такіх умовах некаторыя элементы выбарчых тэхналогій не могуць мець належнага эфекту і губляюць сэнс. Напрыклад, цяпер куды больш складана займацца абходам кватэр з мэтай агітацыі за таго ці іншага кандыдата. На гэта ні ў аднаго кандыдата проста не хопіць чалавечых рэсурсаў.

Тым не менш 110 акруговых камісій прынялі дакументы ад 550 ініцыятыўных груп па збору подпісаў і тыя дзейнічаюць. Канкурэнцыя на адно дэпутацкае месца ўжо складае каля 5 чалавек. Без вялікай пагрэшнасці можна прагназаваць, што да канца перадвыбарчай кампаніі колькасць прэтэндэнтаў у сярэднім дасягне 8-10 чалавек на адно месца. Як бачым, конкурс большы, чым у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Яшчэ частка кандыдатаў будзе балатавацца ад палітычных партый. Але сёлета нельга чакаць высокай актыўнасці партый. З аднаго боку, шэраг апазіцыйных палітычных партый і арганізацый адмовіліся ад удзелу ў выбарах. Як бы хто ні ставіўся да гэтых партый, трэба прызнаць, што яны з'яўляюцца колькаснымі арганізацыямі. Большасць жа тых партый, якія заявілі пра ўдзел у выбарах, не маюць ні разгалінаванай структуры, ні вялікага ўплыву ў працоўных калектывах, таму і не маюць ці то права, ці то рэальных магчымасцей вылучаць сваіх кандыдатаў у многіх акругах.

Нягледзячы на тое, што апазіцыйныя партыі фармальна заявілі пра байкот выбараў, некаторыя арганізацыі прынялі рашэнне не працідзейнічаць самастойнаму вылучэнню сваіх членаў, напрыклад, шляхам збору подпісаў. Праўда, з боку іншых апазіцыйных партый, якія займаюць больш радыкальныя пазіцыі, такія дзеянні атрымалі недвусэнсоўнае асуджэнне. Аднак, як паведамляюць у ЦВК, сярод ініцыятыўных груп, якія падалі дакументы на рэгістрацыю, ёсць некалькі прадстаўнікоў апазіцыі, прычым добра вядомых. У прыватнасці, **у перадвыбарчую кампанію ўключыліся** старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" **Мікалай Статкевіч**, першы сакратар Партыі камуністаў Беларускай **Сяргей Калякін** і сакратар ЦК ПКБ **Алена Сарычан**, экс-прем'ер Міхаіл Чыгір і яго жонка **Юлія Чыгір**, лідэр Беларускага аб'яднання "Яблоко" **Вольга Абрамава** і яе наменснік, вядомы журналіст **Аляксандр Фядута**, старшыня дабрачыннага фонду **Генадзь Грушавы** і некаторыя іншыя палітыкі, якіх ніяк нельга западозрыць у прыхільнасці да дзеючых уладаў.

Тым часам палітычныя партыі, якія байкатуюць выбары, заявілі пра новую ініцыятыву. Каардынацыйная рада гэтых партый прыняла рашэнне аб зборы подпісаў для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па правядзенню рэферэндуму. На яго апазіцыя прапануе вынесці чатыры пытанні, якія адпавядаюць чатыром умовам, што неабходны для правядзення дэмакратычных і справядлівых выбараў і якія былі агучаны еўрапейскімі арганізацыямі. Размова ідзе пра ўсталяванне празрыстасці выбарчай сістэмы, допуск палітычных партый да дзяржаўных СМІ, наданне рэальных функцый парламентаў і ўсталяванне атмасферы даверу.

Такім чынам, у бліжэйшыя некалькі тыдняў па кватэрах грамадзян будуць хадзіць розныя зборшчыкі подпісаў і агітатары.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



*В школу!* *Фото Валерия БЫСОВА.*

## Каля 60 апазіцыянераў бяруць удзел у выбарах

**Аб гэтым заявіў яшчэ 15 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік старшыні партыі БНФ Віктар Івашкевіч.**

Аднак, паводле яго слоў, удзел гэтых людзей у выбарчай кампаніі нельга разглядаць як раскол аб'яднанай апазіцыі. "Гэта выхад гэтых 60 чалавек з аб'яднанай апазіцыі, і ўсяго толькі", — сказаў ён. Пры гэтым Івашкевіч падкрэсліў, што ўдзел "у выбарчым фарсе" асобных прадстаўнікоў апазіцыі не перашкодзіць іншым членам палітычных партый арганізоўваць у гэтых акругах байкот выбараў.

Некалькі іншы пункт гледжання па гэтаму пытанню выказаў лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Ён, у прыватнасці, прызнаў існаванне "пэўнай небяспекі", што колькасць апазіцыянераў, якія бяруць удзел у выбарах, дасягне "крытычнай рысы". Пакуль жа гэтага не адбылося, лічыць старшыня АГП, аб'яднаная апазіцыя будзе "змагацца за кожнага дэмакрата". Лябедзька таксама пракаменціраваў факт удзелу ў выбарах старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалая Статкевіча. Паводле яго слоў, у Беларусі "не адбыўся працэс прыватызацыі партый" і таму меркаванне лідэра БСДП (НГ) не з'яўляецца меркаваннем усёй партыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Выбары пройдуць і за "кардонам"

Па інфармацыі ЦВК рэспублікі Беларусь на консульскім уліку ў беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтвах за мяжой састаіць каля 20 тысяч грамадзян краіны, якія маюць права на ўдзел у парламенцкіх выбарах, што намечаны на 15 кастрычніка. У гэты дзень усе жадаючыя грамадзяне Беларусі, якія знаходзяцца ў краінах блізкага і далёкага замежжа, змогуць прыйсці для галасавання на спецыяльна створаныя ў амбасадах і консульствах выбарчыя ўчасткі.

## І партыйныя вылучэнцы "ідуць у народ"

Як стала вядома, зараз у сярэднім па выбарчай акрузе подпісы збіраюць за 4-5 кандыдатаў у дэпутаты. Праўда, ёсць акругі, дзе ўжо спаборнічаюць і па дзесяць кандыдатаў. Хаця на Гомельшчыне, напрыклад, пакуль дзве акругі засталіся наогул без ініцыятыўных груп. Мясцовыя патэнцыяльныя кандыдаты ў дэпутаты праявілі тут нечаканую пасіўнасць.

Працоўныя калектывы, у сваю чаргу, пакуль марудна ўключаюцца ў перадвыбарчую кампанію, хаця першыя кандыдаты ў дэпутаты ўжо вылучаны ў Слуцкім, Драгічынскім, Івацэвіцкім і некаторых іншых раёнах краіны.

А вось нацонт удзелу партый усё зараз можна прыводзіць пэўную статыстыку. Паводле інфармацыі Цэнтрвыбаркама, члены некаторых палітычных партый, не чакаючы з'езду, самастойна вылучаюцца шляхам збору подпісаў. Дарэчы, Л.Ярмошына лічыць, што пры арганізацыі працы ініцыятыўнай групы сабраць 1000 подпісаў у падтрымку кандыдата не складана. "Мабільная група гэта можа зрабіць літаральна за адзін вечар", — сказала яна. Тым часам акруговыя камісіі зарэгістравалі 49 ініцыятыўных груп членаў Партыі камуністаў Беларускай, 16 — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", 7 — камуністычнай партыі Беларусі, 6 — Рэспубліканскай партыі, 5 — Аграрнай партыі, па 3 — Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці і Сацыял-дэмакратычнай партыі народнай згоды, па 2 — Ліберальна-дэмакратычнай, Партыі працы і Сацыяльна-спартыўнай партыі і 1 — Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Такім чынам па гэтаму спісу відаць, што ў перадвыбарчую кампанію актыўна ўключыліся і некаторыя прадстаўнікі апазіцыі. Ужо пайшла чарада партыйных з'ездаў. На іх палітычныя арганізацыі вызначаюць сваё стаўленне да праводзімай кампаніі і вылучаюць кандыдатаў.

Сярод зарэгістраваных ініцыятыўных груп шмат і тых, хто працуе ў падтрымку сённяшніх дэпутатаў Мінгарвыканкама, а 2 — членаў дзеючага Савета Рэспублікі. Паводле слоў Ярмошынай, кідаецца ў вочы, што за дэпутацкі мандат збіраецца пазмагацца шмат прадстаўнікоў праваахоўных органаў, настаўнікаў, урачоў і нават журналістаў. Ужо актыўна ідзе працэс стварэння ўчастковых камісій. Па ўсёй краіне іх будзе 6695. І яшчэ за мяжой будзе дзейнічаць 41 участак.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

● Куток гаспадыні

## Огурец

Почти шесть тысяч лет люди знают эту культуру. Из страны вечного лета Индии пришли они к нам. В огурцах много воды (95-96%), минеральных солей (фосфор, кальций, магний, железо), микроэлементов (медь, марганец, кобальт, цинк, йод). Железа больше, чем в землянике или винограде. Полезны при болезнях сердца, сосудов, почек. Но противопоказаны при обострении язвы желудка и двенадцатиперстной кишки, гастритах, энтероколитах. Не рекомендуется в салаты с огурцами добавлять помидоры, так как при этом резко снижается ценность огурцов.

Римский император Тиберий требовал, чтобы ему всегда подавали к обеду свежие огурцы.

Этот овощ тем лучше, чем меньше. Ценим и едим больше всего зеленые, недозрелые. Крупные, зрелые огурцы теряют свои ценные качества.

Вот простые в приготовлении и полезные для здоровья рецепты блюд из огурцов.

## Салат из свежих огурцов без соли

Тонко нашинковать 4 свежих огурца, 2 вареных яйца, зеленый лук, зелень укропа, петрушки, 200 г белокочанной капусты. Добавить растительное масло.

## Суп из свежих огурцов

*1,5 л воды, 4 свежих огурца, 1 морковь, корень петрушки, 3 картофелины, 2 ст. ложки сливочного масла, полстакана сметаны, 1 ст. ложка муки, зелень петрушки, укропа, лимонная кислота, соль по вкусу.*

Морковь, корень петрушки, лук нашинковать и протушить до готовности в закрытой посуде в небольшом количестве воды и масла. Очищенные от зеленой корки огурцы порезать кубиками, добавить немного воды, лимонную кислоту и тушить 10 минут в закрытой посуде. Очищенный и нарезанный картофель опустить в кипящую воду, варить 10 минут, затем добавить морковь, петрушку, огурцы, подсушенную муку, разведенную овощным отваром, подсолить и варить еще 10 минут. Суп заправить сметаной, мелко нарезанной зеленью петрушки и укропа.

## Огурцы, запеченные в сметане

*4 свежих огурца, 2 ст. ложки сливочного масла, 1 яйцо, 3 ст. ложки сметаны, соль по вкусу.*

Крупные огурцы очистить, разрезать пополам в длину, обвалять в муке и обжарить с двух сторон на сковороде с разогретым маслом до образования румяной корочки. Затем уложить их в сковороду, смазанную маслом, полить сметаной, смешанной с яйцом и солью, запечь в духовке.

## Огурцы фаршированные

*2 огурца, 20 г картофеля, 10 г свеклы, 15 г моркови, 10 г лука, 1 ст. ложка растительного масла, 25 г сметаны, соль, сахар, перец по вкусу.*

Огурцы разрезать вдоль на две части. Мякоть вынуть, измельчить, соединить со сваренным и нарезанными кубиками картофелем, свеклой, морковью, обжаренным луком. Массу перемешать, заправить солью, перцем, сахаром и маслом. Полученным фаршем заполнить огурцы. Подавать со сметаной.



## АДНЫМ СКАЗАМ

● Статыстыка сведчыць, што ў рэспубліцы на кожныя 100 тысяч насельніцтва 55 жанчын пакутуюць ад рака.

● За сем месяцаў сёлета ў рэспубліцы выяўлена 1860 фактаў выкарыстання фальшывых грошай, што на 762 больш, чым летась за такі ж час.

● Страты расійскай эканомікі ад карупцыі складаюць каля 15 мільярдаў долараў у год.

● Згодна з прагнозам экспертаў амерыканскай арганізацыі Бюро інфармацыі аб народанасельніцтве, у 2050 годзе на Зямлі будзе жыць 9 мільярдаў чалавек.

● Трэць жыхароў планеты, якія жывуць з ВІЧ, складаюць маладыя людзі ад 10 да 24 гадоў.

● У Беларусі на сённяшні дзень да пажыццёвага тэрміну зняволення прыгаворваны 46 чалавек, прычым 8 з іх атрымалі пажыццёвы тэрмін сёлета.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 30 жніўня 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 5392 ас. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 35.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**